# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 35 (237) | ГОД VI | БЕЛАСТОК 27 ЖНІЎНЯ 1961 ГОДА | ЦАНА 50 ГР.

## ДАНУТА БІЧЭЛЬ

* * *

— Мая, — крычаў ты ўсхвалявана мне.
— Мая... — пацвердзіў рэхам шчыры бор...
— Мая... — вятры панеслі на прастор...
І дзяцел стукам паўтарыў сасне.
...Ніякіх заклінанняў не кажы.
Каханне нарадзілася вясной
І, як вясна, я веру, будзе жыць,
Пакуль сінее неба нада мной,
Пакуль звіняць разгульныя вятры,
Пакуль не моўкне рэха у бары...

# ПАКЛАНІЛАСЯ КАЛОССЕ

Трактар чмыхнуў апошнім акордам свайго рухавіка і снапавязалка спынілася. Яшчэ толькі касцы змагаліся з невялікім куском жыта, што шырокім клінам кранаўся дарогі.

Анна — жанчына, аб якой гаворацы, што не аднаго мужчыну ў мышачую нару загнала б — шматзначна маргнула сваім сяброўкам. Іх вочы гаварылі, што яны разумеюць, што ўжо гатовы.

Пракос канчаўся. Сцяблінкі жыта цяжкімі каласамі кланяліся да ног касцам. Жанчыны, адкінуўшы апошнія ахапкі скошанага збожжа, згуртаваліся ля дарогі, дзе яшчэ, быццам смутная сірата, расла невялічкая купка жыта. Пара ўжо — як наказвае звычай — лапаць «перапёлку».

Анна яшчэ раз шматзначна перакінулася позіркам з іншымі жанчынамі і падала каманду:

— Ну што ж, кабеты, абарaць «перапёлку»!?

— Абараць, абараць! — адклікнуліся іншыя жанчыны.

Абворваць «перапёлку» трэба таму, каб на наступны год ураджай быў яшчэ буйнейшы. Абворваць павінен у першую чаргу гаспадар. Старшыня старакарнянскага сельгаскааператыва, Рыгор Сачко, добра ведаў аб тым. Таму і трымаўся далей ад жанчын, якія канчалі ўжо ўпрыгожваць «перапёлку». Але гэтая асцярожнасць не абараніла старшыню. Кабеты з баявым крыкам «Лапаць гаспадара!» накінуліся на яго, прыцягнулі да «перапёлкі» і, ухапіўшы за ногі, сярод агульнага радаснага смеху тры разы абвалаклі наводкал «перапёлкі», упрыгожанай кветкамі.

— Ну, старшыня, — загаварыла Анна, калі абворванне было ўжо закончана, — змучыліся мы. Трэба штосьці на зуб.

Без бочкі віна не абыйдзецца, — падтрымалі яе іншыя жанчыны.

Старшыня доўга бараніўся, супярэчыў, таргаваўся, але ўрэшце запрасіў усіх спулдзельцаў на супольны дажынкавы абед, у час якога чарка часта кружыла з рук у рукі. І быць інакш не магло. Цяжкай працай старакарнянскія спулдзельцы заслужылі на тое, каб у дзень сваіх дажынак бестурботна павесяліцца.

### МАЛА ІХ

На жаль, супольная іх сям'я вельмі ж малая. Кааператыў згуртоўвае ўсяго ледзь дзевяць гаспадарак.

Чаму так мала?

(Працяг на стар. 4)




**Экскурсавод Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея апавядае рабочым камбіната пра гісторыю сцяга тэкстыльнага камбіната імя Сяржана ў Беластоку. (Да «Вестак з БССР», стар. 3).**




**Сельгаскааператыў у Ст. Корніне дыспануе машынамі, вартасць якіх складае суму 214 тыс. зл. На здымку: трактарыст Мікась Тамашук і яго памочнік, Валодзя Швэрц, косяць пшаніцу спулдзельчым трактарам.**

# НАСПЕЎШАЕ ЗАДАННЕ

У нетрах польскіх архіваў, у аддзелах рукапісаў бібліятэк, у прыватнасці ў Варшаве знаходзяцца матэрыялы, якія непасрэдна ці пасрэдна звязаны з гісторыяй грамадска - палітычнай думкі ў Беларусі, з яе літаратурным, ды наогул, культурным рухам. Маю тут перш за ўсё на думцы варшаўскія зборы Федароўскага, Каратынскіх і Місуны. Дагэтуль, у Народнай Польшчы, больш сур'ёзна даследаваны зборы Міхаіла Федароўскага — выдатнага польскага збіральніка беларускай вусна - паэтычнай творчасці. Вынікам гэтай карыснай з'явы быў выхад чарговых тамоў (V і VI) «Люду беларускага». Адзначым тут, што зараз у стадыі падрыхтоўкі знаходзіцца апошні, сёмы том, у якім будуць змешчаны розныя рэдакцыйныя апрацаванні, г. зн. этнаграфічныя і музыкалагічныя матэрыялы, рэдакцыйныя паясненні і г.д.

Зараз усю багатую спадчыну Міхаіла Федароўскага беражна ахоўвае Аддзел рукапісаў Універсітэцкай бібліятэкі ў Варшаве. Аўтару гэтых слоў давялося нядаўна гамзмуляць з кіраўніком аддзела, др Галенай Казэрскай, якая палажыла шмат намаганняў у справе ўпарадкавання спадчыны збіральніка беларускага фальклору. І вось тут хачу пазнаёміць чытачоў «Нівы» з лёсамі гэтай спадчыны пасля 1939 года, г. зн. пасля нападзення гітлераўскай Германіі на Польшчу.

Як вядома, М. Федароўскі, прадчуваючы блізкую смерць (ён з дзіцячых год хварэў туберкулёзам), у 1922 г. склаў завяшчанне, у якім перaказаў увесь свой шматгадовы набытак Польскаму навуковаму

(Працяг на стар. 2)

# СТАРТ

Стаіць гарачыня. Наша машына нясецца па асфальтавай гладзі дарогі, сярод бяскрайняй раўніны. Міма мільгаюць пасёлкі і гарады, мачты высакавольтных ліній, якія ідуць за гарызонт. І раптам на паваротах, удалечыні, мы пачынаем распазнаваць ажурнае збудаванне. Пад'язджаем бліжэй. Праз шчыльнае перапляценне металічных канструкцый паблісквае сігарападобнае цела шматступенчатай ракеты. Велізарныя фермы беражліва і разам з тым моцна падтрымліваюць яе, быццам баючыся, што яна можа паімчацца ў вышыню без дазволу яе стваральнікаў. Гэта стартавая пляцоўка. На канструкцыях, што акружаюць касмічны карабель, бачны людзі. Па радыё раз - пораз аддаюцца кароткія, дакладныя каманды. Ідуць апошнія прыгатаванні да палёту.

З вяршыні ракеты апусціўся ліфт, і з яго на пляцоўку выйшаў невялікага росту хлопец у сіняй у клетачку тэнісцы, запраўленай у лёгкія шэрыя штаны. Ён хутка спусціўся па лесвічцы ўніз і падышоў да групы людзей на чале з галоўным канструктарам — чалавекам, што трымаў у сваіх руках усе ніці падрыхтоўкі да падарожжа ў нябесныя вышыні. Мы, напэўна, не звярнулі б увагі на хлопца ў сіняй тэнісцы, так падобнага да многіх рабочых, калі б сусед не шапнуў на вуха:

## РЭПАРТАЖ З КАСМАДРОМА

— Гэта касманаўт — Герман Цітоў.

Падыходзім бліжэй, каб паглядзець. Ледзь прыкметны ветрык песціць русыя валасы Германа Цітова. Вочы ў яго шэрыя, поўныя той жывінкі, якая вызначае людзей кемлівых, энергічных. Бадай, яму не дасі 26 гадоў. Ён выглядае маладзей. Ад усёй яго фігуры, ад усяго аблічча вее здароўем, жыццерадаснасцю.

...Раніца 6 жніўня. ...Пустынная стартавая пляцоўка. Тут засталіся толькі самыя неабходныя людзі. Час бяжыць хутка і набліжаецца да моманту, калі касмічны карабель унясецца ў нябесныя далі. Вось паказаўся блакітны аўтобус, у якім едзе касманаўт. Герман Цітоў выходзіць з аўтобуса і накіроўваецца да пляцоўкі, адтуль ліфт даставіць яго ў кабіну. На ім аранжавага колеру скафандр, шлем з надпісам «СССР». Ён ідзе некалькі нязграбна. Скафандр, безумоўна, не для зямных прагулак. Пад скафандрам замацаваны розныя датчыкі. Яны перадаюць на зямлю аб'ектыўныя даныя аб фізічным стане пілота.

Развітаўшыся са сваімі сябрамі, будучымі касманаўтамі, Герман Цітоў ідзе да ліфта. Вочы яго свецяцца радасцю, шырокая ўсмешка не сыходзіць з твару. Шлем падыходзіць яму. Ён падкрэслівае яго шырокі лоб, прамы нос, лёгка высунуты ўперад падбародак.

Герман падымаецца па лесвіцы да пляцоўкі, дзе ўстаноўлен ліфт, і звяртаецца да прысутных, да ўсяго савецкага народа з прывітальнымі словамі. Ён гаворыць, што выканае з гонарам заданне, даручанае яму партыяй і ўрадам.

Мы бачым, як Герман Цітоў уваходзіць у кабіну. Пройдзе нямнога часу — і будзе дадзена каманда «пад'ём».

Аб'яўляецца 10-мінутная гатоўнасць...

Старшыня дзяржаўнай камісіі пытае касманаўта аб яго самаадчуванні.

— Самаадчуванне цудоўнае, цудоўнае, — падкрэслівае Герман Цітоў. — Дзякуй за ўвагу.

Аб'яўляецца 5-мінутная гатоўнасць...

І нарэшце ў наступіўшай цішыні раздаецца апошняе:

— Пад'ём!

— Ёсць, пад'ём!

Здалёку нам бачна серабрыстая ракета, якая поўнасцю ўжо вызвалена ад усіх падтрымліваючых яе ферм. Яшчэ секунда — 9 гадзін роўна. І ракета, рухомая нейкай невядомай, цудадзейнай сілай, павольна, здаецца, вельмі павольна, адрываецца ад зямлі. Набраўшы сіл, яна ўсё хутчэй і хутчэй накіроўваецца ў вышыню, як бушуючы вогненны шар. У гэты момант, здаецца, два сонцы свецяцца над Зямлёй. Але адно становіцца ўсё меншым і меншым. На параўчаўча невялікай вышыні касмічны карабель адхіляецца ў бок і ідзе па зададзенаму курсу на арбіту.

Радыё перадае першыя словы Германа Цітова, звернутыя да Зямлі з космасу.

— Іду над Зямлёй, над самай нашай Радзімай.

Праз некалькі мінут яшчэ адна фраза.

— Плаўна, плаўна ж як ідзе карабель!

Яго густы барытон так добра чуваць, як быццам ён тут, недалёка ад нас. А між тым ужо многія кіламетры аддзяляюць яго ад старта. І зноў голас Германа Цітова:

— Будзьце здаровы, таварышы! Да хуткай сустрэчы.

**А. РАМАНАЎ**

(Спец. кар. ТАСС).

## НАСПЕЎШАЕ ЗАДАННЕ

(Працяг са стар. 1)

таварыству ў Варшаве. У ваенныя гады гэтае таварыства перадала большую частку набытку Федароўскага для Варшаўскай Універсітэцкай бібліятэкі, дырэктарам якой быў др Адам Левак. У выніку ваенных падзей бібліятэка была пашкоджана, і пэўная частка матэрыялаў Федароўскага аказалася знішчанай. Пасля вызвалення Варшавы ад гітлераўскіх захопнікаў яго зборы і надалей знаходзіліся ў фондах Універсітэцкай бібліятэкі. У 1949 годзе пачала працаваць у Аддзеле рукапісаў бібліятэкі др Галена Казэрская. Яна разам з працаўніком аддзела, Галенай Стэфаноўскай, бліжэй зацікавілася лёсамі матэрыялаў Федароўскага. Часта ў бібліятэцы выказаліся розныя думкі і меркаванні адносна неабходнасці іх упарадкавання. Часам нават узнікалі сумненні, ці хтосьці наогул у будучыні зацікавіцца гэтымі матэрыяламі. Аднак нягледзячы на такія погляды Г. Казэрская і Г. Стэфаноўская энергічна прыступілі да ўпарадкавання збораў Федароўскага. Гэтаму пачынанню асабліва спрыяла назначэнне ў 1951 годзе др Галены Казэрскай кіраўніком Аддзела рукапісаў Універсітэцкай бібліятэкі.

— Хто ведае, можа прыйдзе такая хвіліна, калі спадчына Федароўскага стане ізноў каштоўным аб'ектам навуковых доследаў, а мабыць нават узнікнуць планы яе далейшага публікавання, — адзначыла аднойчы Г. Казэрская ў размове са сваім супрацоўнікам, Г. Стэфаноўскай...

Пачалася карпатлівая праца над складаннем каталога ўцалеўшых ад ваеннага знішчэння матэрыялаў Федароўскага. Асаблівай адданасцю гэтай справе вылучалася Г. Стэфаноўская. Др Г. Казэрская ўсю гэтую складаную працу забяспечвала навуковым кіраўніцтвам.

Аднойчы Аддзел рукапісаў Універсітэцкай бібліятэкі наведала праф. др Антаніна Абрэмбска-Яблонская. Яна шукала біяграфію Зарыяна Далэнгі - Хадакоўскага. Аказалася тады, што гэтая біяграфія знаходзіцца ў зборах Федароўскага. І якое ж было вялікае здзіўленне праф. Яблонскай, калі яна даведалася, што большая частка спадчыны Федароўскага ўцалела, больш таго, што працягваюцца працы над яе ўпарадкаваннем. Дагэтуль існавала перакананне, што ўсё загінула ў ваенны час. І тут узнікла думка выдання чарговых тамоў «Люду беларускага». З каштоўнай ініцыятывай у гэтай справе выступіла менавіта праф. Яблонская.

У час сваёй размовы з др Галенай Казэрскай высвятлілася, што побач з багатымі фальклорнымі матэрыяламі ў зборах Федароўскага захоўваецца яго багатая перапіска з вядомымі польскімі літаратарамі і этнографамі, з тымі людзьмі, якія паўсядзённа цікавіліся збіральніцкай працай вучонага. Тут таксама маюцца нейкія беларускія ананімныя творы, дадзеныя аб сялянскім руху мінулага стагоддзя на Беларусі, ды наогул багатыя зборы, якія сведчаць аб шматгранных інтарэсах Міхаіла Федароўскага — не толькі як этнографа, але як аматара ўсяго таго, што нейкім чынам датычыць Беларусі.

Калі разыходзіцца аб зборы Я. Місуны, якія таксама захоўваюцца ў Аддзеле рукапісаў Універсітэцкай бібліятэкі ў Варшаве, дык у іх маем шмат беларускіх судовых актаў з XVII — XVIII ст. ст.

Упарадкаванне збораў Міхаіла Федароўскага і выданне чарговых тамоў яго фальклорных матэрыялаў трэба лічыць добрым пачаткам вялікай справы — выяўлення ўсіх тых крыніц у фондах нашых архіваў і бібліятэк, якія могуць выдатна пашырыць нашыя веды аб гісторыі Беларусі.

**МАЦЕЙ КАНАПАЦКІ**




**Мінай сустракаецца з камандзірамі суседніх атрадаў і прапануе захапіць Сураж. Да таго часу пастанавілі пабудаваць зімовы лагер.**

Зімовы лагер быў, нарэшце, гатовы. Яго пабудавалі паблізу Чысціка, на ўскраіне Шчэлбаўскай лясной дачы, пяць кіламетраў ад вёскі Галевічы.

Па загаду Міная Піліпчук і яго парторг — журналіст Пурыжонак вялі назіранне за Суражам, дзе было цяпер раскватаравана каля чатырохсот варожых салдат і паліцэйскіх. Нацысты, па дадзеных разведкі, кватаравалі ў розных баках горада, але галоўныя сілы іх знаходзіліся ў камендатуры і прылягаючых да яе будынках школы — дзесяцігодкі і ваенкамата.

74

Гэтыя дадзеныя цалкам згаджаліся з данясеннямі Блохінай.

— Камендант наш нават начаваць на кватэры баіцца, пераехаў у камендатуру, — расказала старая. — Там у яго на гары кулямёты, а навокал — роў з калючым дротам. Па начах і блізка да камендатуры не падыходзь: б'юць з вінтовак без папярэджання!

— А колькі салдат ахоўвае камендатуру?

— Каля сямідзесяці. Сядзяць як у крэпасці. Таксама і ў школе, дзе жандары жывуць. Вось у гестапа ахова меншая. І каля тайнай паліцыі таксама.

— А пераправа? Ахоўваюць яе?

— Кінулі. Салдат, кажуць, не хапае. Жандараў, якія правініліся, і то пачалі на фронт пасылаць.

Шмыраў зразумеў: больш чакаць нельга, трэба дзейнічаць. Волкаў і Іванаў згадзіліся з ім. Дзейнічаць вырашылі сіламі атрада бацькі Міная...

...Да Суража падышлі ў поўнач. На ўскраіне атрад раздзяліўся: узвод Палубінскага разам з Рычардам Шкрэдам пашоў да гестапа, Піліпчук — да школы, а Мінай з узводам Пічагурава да райвыканкома. Чацвёртая група, пад началам Рамана Міхайлава, павінна была засесці ў заслон на Касплянскім мосце, пятая — апанаваць паромам, а шостая, узначаленая Краўцом і Вяткіным, злавіць Фаменкава.

75

Разышліся моўчкі. Група Міная непрыкметна падабралася да будынка і райвыканкома.

З боку школы, куды накіраваўся Піліпчук, пачуліся першыя выстралы. Яны перапалохалі вартаўніка ля выканкома, і той некалькі раз выстраліў наўгад, падымаючы трывогу. Скрозь вокны камендатуры было відна, як там замітусіліся гітлераўцы. Яны паспешна нацягвалі боты і хапалі зброю.

Партызаны адкрылі агонь па вокнах, і святло ў камендатуры адразу згасла.

— Наперад! Не давайце апамятацца!

Фашысты ўдарылі са слухавых вокан кулямётнымі чэргамі, але партызаны ўжо кінуліся на штурм.

Бой з кожнай мінутай разгараўся ўсё мацней. З боку гестапа, дзе дзейнічаў узвод Палубінскага,данеслася дружнае ўра. У горадзе пачыналіся пажары.

76

Пакінуўшы ўзвод Пічагурава браць камендатуру, Мінай накіраваўся да гестапа. Па вуліцах, па агародах кідаліся фашысты без вінтовак, у адной бялізне. Перабег дарогу Кашалёў. Ён прысеў каля плоту і выпусціў па ўцякаючых гітлераўцах доўгую чаргу. Каля гестапа таўклося шмат партызан. Вокны і дзверы будынка былі адчынены па мармуровых сходах насіліся байцы. Яны выносілі пачкі дакументаў, скрыні з патронамі і мінамі.

Побач гарэлі зялёныя баракі. З канюшні хлопцы выводзілі рослых коней.

— Запрагай! — пачуў Мінай бас Палубінскага. — Ладуй патроны!

Каля пад'езда ляжаў труп вартаўніка. Мінай пераступіў праз яго і спыніўся ў вестыбюлі, дзе на падлозе валяўся партрэт Гітлера. Нехта ўжо паспеў выкалоць яму вочы.

— Піліпавіч, глядзі!

Мінай абярнуўся і ўбачыў Рычарда Шкрэду. У руках у яго гнуў-

77



# ГРОДЗЕНСКІ ТОНКАСУКОННЫ КАМБІНАТ КАЛЕКТЫЎНЫ ЧЛЕН ТАВАРЫСТВА ПОЛЬСКА-САВЕЦКАЙ ДРУЖБЫ

Весткі з БССР



Работніцы камбіната (злева направа) Марыя Габіс, Марыя Шыманская, Наталля Раманенка, Людміла Цімашэнка і Вера Петухова пішуць ліст сваім польскім сябрам, працуючым у фабрыцы імя Сяржана ў Беластоку.

Галоўны інжынер камбіната Рыгор Клячкоўскі і дэсынатар Надзея Торцікава праглядаюць альбомы з узорамі тканін, якія вырабляе камбінат імя Сяржана ў Беластоку.

Ціха нясе свае воды сівы Нёман праз горад Гродна. На правым яго беразе, у цэнтры горада ўзнімаюцца карпусы тонкасуконнага камбіната. Гэта адзін з буйнейшых прадпрыемстваў лёгкай прамысловасці Беларусі. Ён выпускае звыш дзесяці відаў палітовых, касцюмных і дзіцячых тканей. Працоўны калектыў камбіната ў сучасны момант спаборнічае на званне калектыву камуністычнай працы. Зараз у камбінаце здабыла гэтае высокае і пачэснае званне 12 брыгад. Кожны шосты рабочы з'яўляецца членам брыгады або ўдарнікам камуністычнай працы.

У гонар XXII з'езду КПСС рабочыя і інжынерна - тэхнічныя работнікі забавязаліся павысіць сацыялістычныя абавязацельствы, даць звыш плана 60 тысяч метраў гатовых вырабаў. У часе спаборніцтва на званне калектыву камуністычнай працы, у камбінаце выраслі выдатныя работнікі вытворчасці такія, як Марыя Іванава, Яўгенія Занеўская, Тацяна Кулеш, Тамара Шпаковіч, а Марыі Чэкель прысвоена званне Героя Сацыялістычнай Працы. Зараз яна працуе зменным майстрам, з'яўляецца актыўным удзельнікам мастацкай самадзейнасці.

Рабочыя камбіната не толькі добра працуюць і вучацца, але таксама вясёла і культурна праводзяць свой адпачынак. У 1954 годзе яны атрымалі ў карыстанне Палац культуры тэкстыльшчыкаў, у якім створаны ўсе спрыяльныя ўмовы дзеля культурна-масавай працы. Тут адбываюцца вечары адпачынку, спрэчкі, сустрэчы выдатнікаў і наватараў вытворчасці.

Пры Палацы культуры створаны кружкі мастацкай самадзейнасці: харавы, які налічвае 75 асоб, танцавальны, духавы, драматычны, дзіцячая балетная студыя і другія. Гродзенскія тэкстыльшчыкі ад 1957 года наладзілі трывалыя сяброўскія сувязі з тэкстыльшчыкамі камбіната імя Сяржана ў Беластоку. Рабочыя гэтых двух прадпрыемстваў пастаянна абменьваюцца дэлегацыямі, тэхнічнай літаратурай, лістамі і фотавыстаўкамі.



Па ініцыятыве рабочых і служачых на камбінаце ў ліпені 1960 года быў створаны аддзел таварыства савецка - польскай дружбы. У склад праўлення аддзела ўвайшло 27 асоб. Старшынёю праўлення аддзела таварыства савецка - польскай дружбы выбраны дырэктар камбіната Аляксандр Касцоў.

Аддзел таварыства на камбінаце адкрыў курсы па вывучэнню польскай мовы. У бібліятэцы Палаца культуры тэкстыльшчыкаў маюцца польскія кнігі і часопісы. У фае Палаца культуры наладжана фотавыстаўка, адлюстроўваючую жыццё польскага народа. 21 ліпеня 1961 года на камбінаце быў праведзены ўрачысты сход з выпадку 17-ай гадавіны Польскай Народнай Рэспублікі.

У змешчаных фотаздымках апавядаецца аб некаторых праявах жыцця калектыву камбіната.

Сакратар камсамольскай арганізацыі Пётр Лук'янец праводзіць заняткі ў гуртку па вывучэнню польскай мовы.

---

ся гумовы бізун, блішчэлі нікляваныя наручнікі і клешчы

— Вось езуіты, га?

— Ёсць арыштаваныя? — спытаў Мінай.

— Ніводнага. Кажуць, тыдзень таму апошніх пабілі. Відавочна, Васька не паспеў новых даставіць.

— Узялі яго?

— Бяруць Вяткін з некалькімі байцамі.

— Добра было б жывым узяць сабаку...

Мінай вышаў з гестапа, накіраваўся да завалу ля моста і раптам пачуў ззаду чыесьці крокі. Ён прыгнуўся за завалам. Тут у засадзе ляжалі Міхайлаў і разведчыкі.

Крокі набліжаліся. Пачуўся чыйсьці асцярожны пытальны голас:

— Віцебск? Віцебск?

— Стой! Хто ідзе? — падняўшыся спытаў Міхайлаў двух узброеных людзей.

Невядомыя спыніліся. Адзін з іх пераступіў босымі нагамі.

78

— Панове, чаму вы тут? Партызаны ўварваліся ў горад!

— А вы хто?

— Я перакладчык камендатуры, Звіршбуль.

— А другі?

— Бабкоў паліцэйскі. Не марудзьце, панове, інакш усіх паб'юць!

— Вельмі добра, вас нам і трэба. А ну — рукі ўгору! Вышэй, вышэй!

Здраднікі не супраціўляліся: яны, відаць, усё яшчэ думалі, што маюць справу са сваімі.

— Звязаць! — загадаў Мінай. — Адправіць да парома. Спатрэбяцца...

Паправіўшы аўтамат, ён пашоў да хаты Фаменкава. Партызаны ўжо ў горадзе каля дзвюх гадзін. Значыць хутка світанне. Трэба тарапіцца.

Каля хаты Ваські Мінай сустрэў Вяткіна. Спытаў:

— Узялі?

— Не яшчэ. Такі агонь вядуць, гады, што не падыдзеш...

79

— Трэба адвесці ўвагу, разыграць наступленне, а ў той час...

І раптам змоўк, пачуўшы шум матораў. Гэта маглі быць толькі танкі, якія з боку Віцебска ішлі на дапамогу мясцоваму гарнізону. Вяткін таксама зразумеў небяспеку і крыкнуў у цемку:

— А ну, хлопцы, давайце салому!

Ён загадаў сканцэнтраваць стралянніну на адным з вокан, і пад прыкрыццём партызанскіх залпаў з двума байцамі, падкраўшыся да хаты, пачаў абкладваць яе саломай.

— Падпальвай, хлопцы!

Драўляны дом загарэўся адразу.

— Цяпер не ўцячэ!

Побач гарэўшых будынкаў партызаны спусціліся да парома. Частка з іх ужо паспела пераправіцца на другі бок дарогі, дзе знаходзіліся і захопленыя ў гестапа дакументы. і палонныя.

У горадзе ўжо ляскалі гусеніцы танкаў, калі апошні баец ускочыў на паром.

Мінай сам узяўся за канат

— А ну, хлопцы, навалiся!

(Працяг за тыдзень)

80



Зменныя майстры. Герой Сацыялістычнай Працы Марыя Чэкель (злева) і Зося Лаўрова — актыўныя члены аддзела таварыства савецка-польскай дружбы.






# КАМІНАР

— Ад работы коні дохнуць, — сказаў Кастусь.

— Значыць, на трактар перакідаешся? — пацікавіўся Максім.

— На трактары таксама працаваць трэба, а я без працы пражыву.

— Даражэнькі, падрапай мне левую пятку, што гэта сніцца мне? Што я чую? Як жа ты грошы без працы атрымаеш?

— Камінарам буду, курыная твая галава, — прызнаўся Кастусь.

— Не завідую. Цэлы дзень па стрэхах лазіць.

— Навошта лазіць? Няхай каты па стрэхах лазяць, — адказаў Кастусь.

— Ты што, мо комін знізу будзеш чысціць? — пацікавіўся Максім.

— Прыстаў ты, Максім, як, не маркуючы, рэп да конскага хваста. Які ж гэта камінар на работу спадзяецца. У мяне без працы з вясковых комінаў замест сажы грошы пасыплюцца, — пахваліўся Кастусь.

— Кінь у мяне варэнікамі, калі я тут штонебудзь разумею, — прызнаўся Максім.

— Спецыяльнасць у камінара тонкая, а заробак тоўсты, — тлумачыў Кастусь. — Пісьменным людзям работа чыстая: выпісвай квітанцыі ды грошы зграбай.

— Шырэй трымай кішэню! Даў бы я табе шыш, а не грошы. Перш за ўсё вычысці комін, а тады ўжо грошы атрымоўвай, — пярэчыў Максім.

— На такіх разумнікаў камінары свой спосаб маюць, — адказаў Кастусь

— Які ж гэта спосаб? — пацікавіўся Максім.

— Запускаюць у комін гіру так шчыра, што цэглы сыплюцца. Пасля камінар адыходзіць, а гаспадар да сябе прыходзіць. Разбірае печ, з дымніка адломкі цэглы вымае. Такі гаспадар дзесятаму суседу параіць коміна не чысціць.

Пад уражаннем Кастусёвых слоў Максім насунуў шапку на лоб, падрапаў патыліцу і збянтэжана прызнаўся:

— Ну так... фактычна пападзеш у гісторыю з геаграфіяй. Хітрая тут музыка прыдумана. Выходзіць — сутнасць справы ў квітанцыі. Няма квітанцыі — адказваць будзеш за непрачышчаны комін. Квітанцыя ёсць, а комін не прачышчаны, і да гаспадара ніхто не прычэпіцца.

Далейшыя разважанні Максіма перарвала цётка Марыя, якая ўварваўшыся ў хату абвясціла:

— У Маланчынай хаце камінар грошы прымае. Тым, хто не заплаціць, казаў, што зараз пачне коміны чысціць.

Максім з бадзёрасцю цяляці выскачыў з хаты.

Людзі добрыя, я сёння мару аб адным — мець зяця камінара.

*Дзядзька Лявон*



### НЕ РАНА

Прышоў малы Валодзя да суседкі.

Суседка: — Ой, Валодзька, у цябе так рана зубы вылятаюць!

Валодзя: — Не, гэты зуб выляцеў увечары.

**Мікалай Семенюк**
Крывая




### ГУЛЬТАЙ

У аднаго чалавека была раскрыта клуня.

Усе звозяць сена і пытаюць яго, чаму не крые клуні.

— Навошта маю крыць, калі сонца свеціць, — адказвае той.

Прышоў дождж. Людзі пытаюць: — Чаму не крыеш?

А ён кажа: — Як я буду крыць, калі дождж падае.

**Антаніна Лукашук**
Пасечнікі Малыя

### ДЗЯКУЮ

Сусед да Міколы: — Мікола, твая сабака з'ела мне курыцу.

Мікола: — Дзякую, суседзе, за паведамленне, сёння на вячэру ўжо яму не дам нічога есці.

**Валя Хілімонюк**
Койлы

### ХІТРЫ СУДДЗЯ

Прышоў да суддзі чалавек і кажа, што яму ўкралі суседзі каня.

Суддзя склікаў суседзяў, даў ім па палачцы і сказаў, што ў злодзея падрасце палачка.

Злодзей злякаўся і ў начы абрэзаў палачку. Гэтакім чынам суддзя знайшоў злодзея.

**Аркадзь Латоўскі**
Лесна

### ПРАДАЎШЧЫК І МЫШЫ

— Чуеш, суседка, у нашым гаэсе зноў склалі пратакол, што мышы з'елі 10 кг саланіны.

— Гэтыя мышы толькі і выратоўваюць нашага прадаўшчыка.

**Юрка Шумелюк**
Рыбалы

### ДАДУМАЎСЯ

— Вася, чаго ты плачаш?

— Адкуль вы ведаеце, што я Вася?

— Дадумаўся.

— Тады дадумайцеся, чаго я плачу.

### У БЮРО

— Колькі чалавек працуе ў вашым бюро?

— З кіраўніком пяць.

— А без кіраўніка?

— Ніхто.

**С. Ю.**



Без слоў.

## ПАДХАЛІМ НА ПЛЯЖЫ



— Вася, ты чаму не загараеш?

— Дырэктар сказаў, што я загарэў лепш, чым ён.



Без слоў.



Доктар: — Дык што ўчора было: імяніны, вяселле ці футбольны матч?

## АРАБСКІЯ АНЕКДОТЫ

Адзін чалавек праходзячы міма жанчыны, якая сядзела ля магілы і плакала, спытаў: — Кім быў табе гэты нябожчык?

Адказала: — Гэта мой муж.

Спытаў: — Чым займаўся?

Адказала: — Капаў магілы.

Прахожы сказаў на гэта: — Няхай яго Бог аддаліць ад сябе і не змілуецца над ім. Ці ж ён не ведаў, што хто капае яму, сам у яе ўпадае?

ІВАН СІДАРЭНКА

# ПА ДАРОЗЕ НА БАЗАР

У Мацеевым садзе дрэўцаў было не больш, чым валасоў на палыселай галаве яго гаспадара. Мала, праўда, дрэўцаў, але сёлета дзябёлае голле аздобілася першымі пладамі.

— Вось яблыкі дык яблыкі! — хваліўся гаспадар. — Мічурынскія!

Аднойчы ў нядзелю Мацей апрануўся пасвяточнаму, паснедаў, узяў у рукі важкі кошык з яблыкамі. Сабраўся на базар. Жонка дастала з куфра грошы.

— Гэта на праезд туды і назад. А на большае прабач, на яблычках заробіш.

На шашы Мацею пашанцавала сесці ў першы ж аўтобус. Незнаёмы юнак у адпрасаваным гарнітуры і пры гальштуку ўступіў старому сваё месца.

— Дзякую, сынку, — кіўнуў Мацей юнаку і ні то сур'ёзна, ні то жартам дадаў: — каб цябе дзеўкі любілі...

Пасажыры, што знаходзіліся паблізу, дружна засмяяліся. А другі юнак зазначыў:

— З вамі, аказваецца, весела. А ці далёка ж едзеце?

— На базар, — важна адказаў стары і дадаў: — Яблыкі вязу. А ты з якой вёскі?

— З Бярэзнікаў.

— Вось як!.. А ці ведаеш там Андрэя Чачотку?

— Гэта мой бацька.

— Значыць, ты — Павел? Вось навіна!.. Даўно я цябе не бачыў. Вялікі ўжо вырас... Бацька ж як маецца? Жыў - здароў?.. Ну, дзякую на добрым слове. Кланяйся яму ад Мацея Гарнака. Адзін едзеш?..

— З сябрамі.

— Частуйся, будзь ласкаў, — Мацей падставіў Паўлу свой кошык. — І сяброў запрашай, няхай пакаштуюць.

Да кошыка працягнулася добры дзесятак загарэлых рук.

— Смачныя вашы яблыкі! — згодна пахвалілі хлопцы з Бярэзнікаў, і Мацей у адказ шчыра запрашаў іх частавацца яшчэ і яшчэ

Як толькі аўтобус дасягнуў гарадской ускраіны, сярод пасажыраў пачалася стрыманая мітусня, якою звычайна заканчваецца кожнае падарожжа.

— Прыехалі, дзядзька Мацей! — выгукнуў Павел Чачотка. — Да базарнай плошчы ўжо недалёка.

— Эге ж, кажуць, рукой падаць... А ты па якой справе.

— Таксама на базар.

— Разумею! — Мацей Гарнак хітравата падміргнуў. — Сам быў маладым, і з тваім бацькам, бывала, разам швэндаліся па базарах.

— А цяпер наведайцеся да нас у Бярэзнікі, — запрасіў Павел, пакідаючы аўтобус. — Бацька госцю будзе рады. Абавязкова ж прыедзьце! Да пабачэння...

Мацей выйшаў з аўтобуса. На тратуары ён раптам адчуў нязвыклую лёгкасць, амаль бязважкасць свайго кошыка. Прыўзняў край хусцінкі і ўбачыў, што ў кошыку яблыкаў не засталося. Ніводнага.

— Ах, шкада, — уздыхнуў Мацей і падумаў: «Да шашы і два кошыкі данёс бы... Давядзецца сюды зноў ехаць. І ў Бярэзнікі, да Чачоткі, таксама. А яблыкаў хоціць, толькі ешце, людзі, на добрае здароўе!..»